Год выдавецтва II. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Царкоўна-грамадская і палітычная часопісь.
(Орган Праваслаўнага Беларускага Дэмократычнага Аб'яднаньня).
(Выходзіць 2 разы ў месяц)

№ 9 (15) | 24 КРАСАВІКА. | 1928 г.

| АДРЭС РЭДАКЦЫІ: | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: | ЦАНА АБВЕСТАК: |
|---|---|---|
| Вільня, Гэтманская вуліца № 4, кв. 16. | на 1 месяц: . 60 гр.<br>на 3 месяцы: 1 зл. 50 — | на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр., за рад. пэтыту. |


## Хрістосъ Воскресе!

Рэдакцыя «Праваслаўнай Беларусі» шле сваім супрацоўнікам і чытачам шчырае прывітаньне з найсьвятлейшым Хрыстовым сьвятам:

Хрыстос Уваскрос!

Няма сярод хрысьціянскіх сьвятаў больш сьветлага, больш вялікага, як гэта сьвята. Не дарма і ў сьвятой песьні пяецца:

„Праздніков празднік і торжество есть торжеств" — Сьвята паміж сьвятамі і ўрачыстасьць над урачыстасьцямі.

... бо гэта сьвята ёсьць сьвята перамогі над сьмерцьцю, перамогі над усім нядобрым, над усім тым злом, якое сковывае нашае жыцьцё, агартае і ахоплівае яго, — гэта перамена на новае жыцьцё: «иного житія вѣчнаго начало»... такога жыцьця якое стаіць на грунце вечных ідэалаў Божай праўды і любові...

Шчыра жадаем беларускаму грамадзянству ўсяго добрага і сьветлага як сьветла гэта сьвята.

**Рэдакцыя.**

# Патрыярх Ціхан.

(8 сакавіка 1925 - 1928 г.).

У ноч з 7-га на 8-е красавіка сканчылася тры гады са дня сьмерці Усехрасейскага Патрыярха Ціхана...

Сярод праваслаўных веруючых у апошнія гады няма імя больш папулярнага, больш усім ведамага і ня толькі ў межах сучаснай Расеі, ці С. С. С. Р., але і ў межах усіх тых дзяржаваў, якія ўтварыліся на яе руінах пасьля рэвалюцыі, а нават і далёка заграніцай.

І ў гэтым няма дзіўнага.

Перад усім з імям патрыарха Ціхана зьвязана адраджэньне патрыаршаства ў Расеі, скасаванага ў свой час Пятром Першым, утварыўшым сінадальный строй, пасьля чаго ў працягу 200 гадоў расейская царква была як-бы ў няволі ў сьвецкай улады. Патрыаршаство ўзноў давала ёй вонкавую незалежнасьць і ўнутраную свабоду і самастойнасьць, паводле таго саборнага ўстрою, які быў выпрацаваны на Маскоўскім Саборы ў 1917—18 г. г.

Такім чынам узнаўленьне патрыаршаства ў Расеі цесна зьвязана з адраджэньнем Усерасейскай Царквы, да якой належылі большасьць праваслаўных усяго сьвету, а між іншым належылі і тыя епархіі, якія знаходзяцца на абшарах нашае Беларусі.

Вось за што перад усім імя патрыарха Ціхана дарага ўсім праваслаўным, зьвязаным з гэтай Царквой як тут у Польшчы, так і на далёкім Усходзе і на далёкім Заходзе сярод праваслаўных жыхараў Амэрыкі.

Аднак гэта сувязь была-б толькі фармальнай, калі-б патрыарх Ціхан быў толькі *назначаны* тым звычайным парадкам, які ўстанавіўся ў Усехрасейскай царкве за часы так званага сінадальнага строю. Але-ж гэта быў патрыарх *выбраны*,—выбраны на вялікім саборы, дзе былі прадстаўнікі праваслаўных епархіяў, пачынаючы ад Камчаткі і канчаючы заходня-амэрыканскімі штатамі! Ня толькі історыя гэтай Царквы, але нават історыя і ўсехсьветнай царквы ня ведае так шырока пастаўленай справы выбараў праваслаўнага іерарха некалькіх стран і дзяржаваў, ахапліваючых разам амаль не палову сьвету!

Тая асаблівасьць, што ўсё-ж і гэты Сабор ня адважыўся ўзяць на сябе адказнасьць за гэтак паважныя выбары і астатні акт выбару аддаў на волю Божыю*), — прыдае гэтым выбарам і самаму выбраннаму іерарху асобную павагу і значэньне,—значэньне „Божага ізбраньніка".

Прыймаючы аднак пад ўвагу тое, што яшчэ перад тым патрыарх Ціхан быў усенародна выбраны ўжо два разы: маскоўскай епархіяй — на мітрапаліта маскоўскага, а пасьля—на прэдседацеля Сабору, мімаволі паўстае пытаньне, *што* так прыцягівала да гэтага іерарха людзкія сэрцы,—*што* рабіла яго такім пажаданым у душах праваслаўнага народу? Раўняючы яго з іншымі віднейшымі сучаснымі іерархамі Ўсехрасейскай Царквы, мы ня можам ня прызнаць, што сярод іх было многа і больш вучоных, і больш здольных да адміністрацыйнай працы і больш красамоўных і нават больш выдатных па свайму зьнешняму выгляду. Што-ж было ў гэтым чалавеку, што перамагала ўсе гэтыя якасьці?

На гэта трэба адказаць, што было ў ём тое, што зьяўляецца найбольш выразнымі прызнакамі ўзапраўднага хрысьціянства і разам найбольш любімымі якасьцямі праваслаўнага народу,— гэта сьмірэннасьць і простасьць. Мы ведаем, што ў праваслаўным народзе найбольшаи пашанай, найшчырэйшай любоўю заўсёды карыстаюцца не вялікія вучоныя айцы Царквы, а сьмірэнны Мікалай Чудатворац, Аляксей чалавек Божы і другія іншыя, у кім найбольш выразна выявіліся гэтыя душэўныя прызнакі.

І патрыарха Ціхана можа больш як усіх іншых сучасных іерархаў можна было-б ахарактэрызаваць тымі славамі царкоўнай песьні, якімі царква ўс-

---

*) З трох кандыдатаў адзін быў выбраны, пасьля малітвы, жрэбіем.

хваляе сьвяціцеляў: „сьцяжал есі смірeніем высокая",—ты дасягнуў гэтакай вышыні праз свае смірэніе.

З гэтым смірэньнем у яго неразлучна злучалася заўсёды надзвычайная простасьць і ветлівасьць. Сярод праваслаўных Віленскай епархіі шмат ёсьць людзей, якія добра памятуюць патрыарха ў тыя часы, калі ён быў Віленскім архіерэям, і ім ня трэба расказываць аб гэтым, бо хто хоць раз бачыў гэтага сьвяціцеля, ня можа запамятаваць нязьменнага, ласкавага і ветлівага ўсьмеха на яго вуснах, якім ён спатыкаў кожнага. З такім адзінакавым ветлівым усьмехам спатыкаў ён і пасьля, падчас патрыаршаства ўсіх, ці прыхадзіўшых да яго прасіцеляў і саслужыўцаў, ці судзіўшых яго савецкіх чэкістаў.

Толькі ў час малітвы і ўрачыстых сьвяціцельскіх чыноў на яго твары адзначалася сур'ёзнасьць, суровасьць і сьвядомасьць высокасьці свайго служэньня.

У нашыя дні панаваньня палітыкі і палітычных разнагалосьсяў яшчэ ня можна з поўнай яснасьцю прадставіць сабе той вялізарны подзьвіг хрысьціянскай любві, які панёс на сваіх плячох патрыарх у час дзяржаўнай і царкоўнай разрухі ў Расеі. Час ацэнкі гэтага подзьвігу яшчэ не настаў. Для расейскіх эмігрантаў і дасюль яшчэ душу „амрачае мысьль" (гл. фэльетон Арцыбашэва ў газэце „За Свободу" за 10-е сакавіка 1925 г.) аб тым, што патрыарх прызнаў савецкую ўладу і адмовіўся ў той час паслаць благаслаўленьне вайскам ген. Дзянікіна. Няма дзіўнага, бо збалеўшымся палітычна душам так хацелася-б бачыць у патрыарсе *палітычнага змагара за іхнюю ідэю*,—бачыць яго *па свaей старане*.

І патрыарх ведаў, што сваім чынам, адносна да бальшавіцкай улады, ён наклікае на сябе гнеў усей расейскай інтэлігенцыі, але пайшоў на гэта, ахвяраваў нават сваю асабістую палітычную рэпутацыю, каб толькі захаваць уплыў і сувязь з масамі праваслаўнага народу, якія тады ці сьвядома, ці несьвядома ня ішлі і не хацелі ісьці разам з „белымі".

Усю сілу гэтай самаадверджаннасьці каліСь небудзь разгледзіць гісторыя, бо цяпер нават ня настаў яшчэ час і вольна пісать аб гэтым, але жыцьцёвая правідловасьць узядзенага патрыархам кірунку апраўдалася нават адразу і прадаўжае апраўдывацца ўжо і цяпер. Спасаючы Царкву і нават зусім нібы безстаронна адносятся да дзяржавы, ён падгатаўляў спасеньне і той і іншай.

Ня толькі ён сам, але нават і магіла яго служыць цяпер нейкім аб'ядна-ючым сьцягам, каля якога грунтуецца ўся былая Сьвятая Русь, як каля тых, хто адшчапіўся ад яго — групуецца „Русь паганая"...

І гэта чуюць інстынктыўна як ворагі Царквы, так і людзі простыя, але моцныя сваей верай, хоць падчас гэта яшчэ незразумела для „прэмудрых і разумных".

Няхай-жа ніколі не запамятуецца ў нашых сярцах памяць аб гэтым вялікім у сваім сьмірэньні, мудрым у сваей прастаце і моцным у сваей слабасьці сьвяціцелю.

В. Багдановіч.

## Перамога ідэі парлямэнтарызму.

Пытаньне аб адносінах паміж уладамі заканадаўчай і выканаўчай у апошнія часы ў Польшчы прыняла вострый характар. Досыць успомніць астатнія месяцы жорсткай барацьбы паміж памёршым Соймам і санацыйным урадам, каб бачыць, у якую форму вылілася гэтая барацьба. Успамянуты Сойм, надаўшы пасьля „санацыйнага" перавароту ураду шырокія правы ня толькі у дзядзіне ўлады выканаўчай, але і законадаўчай, на сваіх плячох адчуў гэтую сваю вялікую памылку. Калі пасьля нядоўгае згоды распачалася парлямэнтарная барацьба з урадам, аказалася, што Сойм зусім пазбавіў сам сябе аружжа, а натомест закуў у браню шырокіх паўнамоцтваў урад. Барацьба аказалася немагчымай. Як толькі Сойм хацеў выявіць сваю волю нязгодную з пажаданьнямі і імкненьнямі ураду, апошні паварачываў да

Сойму паданое ім жа аружжа,—паўнамоцтва, і зачыняў Соймавую сэсыю. Так ён дажыў да апошніх сваіх дней дыскрыдытаваны, бязлічны, бязвольны...

Настаў час новых выбараў.

Паўсталі перад Уралам клопаты, як надалей захаваць так лёгка заваёваныя ім у былога Сойма пазыцыі.

Як дабіцца таго, каб ня урад залежыў ад Сойму, а наадварот — Сойм ад Ураду. Сярод урадовых кругоў паўстае думка, што для дабра дзяржавы патрэбны такі Сойм, які мог бы супрацоўнічаць з санацыйным урадам. Знайшліся людзі, якія ўзяліся прапагаваць гэтую ідэю сярод выбаршчыкаў, стварылі Безпартыйны блёк спаўпрацы з жондам і выступілі асобнай партыяй на выбары да Сойму і Сэнату. Калі-б гэтая новая „безпартыйная“ партыя была толькі адной з палітычных партыяў, то тут нічога дзіўнага, стоючага увагі, ня было-б. Але за гэтай партыяй стаяў Урад, які вуснамі віцэпрэзэса Бартля адчынена заявіў аб гэтым у аднэй з прамоў, сказаных ім па радыё на ўсю Польшчу у часе выбараў. Такім чынам Урад як бы выставіў сваю дзеяльнасьць на абсуд усяго дзяржаўнага народу, які павінен быў выявіць сваю волю пры выбарах у Сойм і Сэнат.

Як скончыліся выбары ўсім ведама. Хаця Безпартыйны блёк меў значны пасьпех, але далёка ня ўзыскаў большасьці. Ён правёў у Сойм токькі 127 паслоў,—гэта значы — атрымаў троху больш як чацьвёртую частку усіх пасольскіх мандатаў. Такім чынам аказалася, што ўрадавая партыя большасьці не атрымала, а з гэтай прычыны выкананьне свайго заданьня змусіць Сойм супрацоўнічаць з урадам, а не наадварот, як таго вымага Польская Канстытуцыя, адразу спаткала вялікія труднасьці. Аднак прадстаўнікі „санацыі“ не зракліся адразу сваей думкі, палагаючы надзею на тое, што Безпартыйны Блёк, як найбольшая партыя ў Сойме, здолее ўзяць у свае рукі кіраўніцтва Соймам. Думалі, што пры гэтакай сытуацыі яны знойдуць бракуючую ім лічбу да большасьці галасоў з другіх партыяў.

Як паведамлялі ў сваім часе газэты, Пілсудскі на нарадзе безпартыйнага блёку прапанаваў на становішча маршалка Сойму кандыдатуру свайго найблізшага супрацоўніка, віцэ-прэзэса міністраў Бартля. Санацыя была так пераконана ў безумоўным пасьпеху свайго кандыдата, што лічыла выбар Бартля на маршалка Сойму амаль што ня ультыматыўным варункам творчай працы і нават істнаваньня Сойму. Сам Бартэль, як піша „Il. Kurjer Warszawski“ так быў пераконаны у выбары на маршалка, шро нават ужо пажагнаўся са сваімі калегамі па працы у міністэрстве.

Але чалавек прадпалагае, а Бог распалагае. Інцыдэнт з уводом паліцыі да салі Сойму міністрам унутраных спраў дзеля таго, каб заарыштаваць і вывясьці з Сойму паслоў—камуністаў, якія пры адкрыцьці Сойму рабілі выкрыкі процiў Ураду Пілсудскага, паказаў усім прыхільнікам парламэнтарызму, што калі кіраваньне Соймам пападзе ў рукі „санацыйнікаў“, дык тагды магчымы ў Сойме ўсялякія неспадзянкі. Настрой усіх партыяў, не ўходзячых у Санацыйны блёк, рэзка павярнуў ўлева. Пры выбарах маршалка Сойму пры першым жа галасаваньні адразу азначылася, што кандыдатура П. П. С-аў Дашынскага мее большы пасьпех, чым кандыдатура Бартля. Пры паўторным галасаваньні Дашынскі атрымаў абсалютную большасьць галасоў і быў выбраны на маршалка Сойму. Гэты неспадзеваны для „санацыі“ выбар, а асабліва першая прамова Дашынскага, у якой ён выразна азначыў, што будзе імкнуцца да таго, каб зрабіць магчымай супрацоўнасьць ураду з Соймам, а не наадварот, як таго дамагалі „санацыйныя“ групы,—выклікаў вялікае абурэньне санацыйнікаў, якія дэманстратыўна ўсталі са сваіх лаваў і пакінулі салю Сойму. Сьледам за адзінкай пакінулі сваі лёжы і міністры.

Гэты бэзпадставуны пратэст (бо хто-ж можа накідаць Сойму сваю волю пры выбарах маршалка?) меў большае значэньне, чым гэта здавалася адразу. У гэтай перамозе левых партыяў еднынка заўважыла паражэньне свайей ідэалёгіі, свае імкненьня да зьвядзеньня Сойму на другастапнёвую ролю у палітычным жыцьці Польшчы. Перамагла ідэалёгія парламэнтарызму. Як ні шумелі „санацыйныя“ газэты, ацэніваючы гэты факт свайго паражэньня і прадракаючы ўсялякія беды, як ні радаваліся, з другога боку, манархістычныя газэты, што парастае канфлікт паміж Соймам і Ура-

дам, які, паводле іх зданьня, павінен прывесьці да ліквідацыі Сойму і агалошэньня дыктатуры, аднак, як паведамляюць газэты, новы маршалак быў прыняты п. Прэзыдэнтам і марш. Пілсудскім, з якімі меў доўгую нараду. — Гэтыя візыты ўжо паказвалі, што вярхі ўраду ў адносінах да Сойму не пашлі шляхам, аб якім думала „санацыйная" адзінка. Гэта змусіла і яе павярнуць свой фронт і вярнуцца да Соймавае працы. Такім спосабам воля дэмакратыі на гэты раз перамагла.

Праўда, і Сойм зрабіў ў адным выпадку ўступку Ўраду. Паводле прынятых у парлямэнтарных старонах традыцыяў, пры распачатку новым парламантам сваёй працы Ўрад in corpore падае да дэмісыі, як бы перадаючы новым прадстаўнікам народу ўсю „паўнату ўлады". Ад самага Сойму залежыць, ці вярнуць выканаўчую уладу гэтым самым людзям, ці стварыць новы габінэт. „Санацыйны" урад гэтага не зрабіў, можа таму, што ён ведаў ужо аб адносінах да яго большасьці дзяржаўнага народу праз выбары ў Сойм. Нейкія газэты ў гэтым факце бачуць надзвычайны крок адмежаваньня улады выканаўчай ад законадаўчай. Але пры ацэнцы гэтага факту належыць памятаць той няпрыемны спадак, які пазаставіў у гэтай галіне папярэдні Сойм. Падстаўляць пад пытаньне самае сваё існаваньне з за гэтай фармальнай стараны Сойм не захацеў. Тым больш, што ў будучыні яшчэ ёсьць шмат пытаньняў, якія будуць зьвязаны з пытаньнем аб даверы са стараны Сойму, як, напрыклад, выданыя дэкрэты, якія павінны быць унесены ў Сойм на працягу 14 дзён, прадаўжэньне паўнамоцтваў і шмат іншых, якія маюць першарадную вагу, пры вырашэньні якіх Сойм можа адстаіваць свае прэрагатывы. Цяпер жа трэба зацьвердзіць, што цьвёрдая пазыцыя занятая Соймам змусіць лічыцца з сабою „санацыйныя" кола і гэтым падойме павагу Сойму і ўзмоцніць ідэю дэмократыі. А у нашыя часы гэта асабліва важна. Калі са ўсіх бакоў, з лёгкай рукі „пралетарскага" самаўладцы Леніна, бьюць фалі фашызму ў дзяржаўныя караблі Эўропы, перамога ідэі дэмократыі павінна быць асабліва падкрэслена. У гэтым сэнсе першая перамога ідэалёгіі парлямэнтарызму ў Польскім Сойме будзе мець сваё значэньне.

**В. Васілевіч.**

# Бяз грунту

(Да пытаньня аб прававым і кананічным становішчы Праваслаўнай Царквы ў Польшчы). (Канчатак).

Як у спрэчках з сьвецкай уладай (мэморіал) ярчэй за ўсё сказалася шкадлівая праца нашае афіцыяльнае іерархіі, што да юрыдычна - прававога ці зьнешняга палажэньня праваслаўнай царквы ў Польшчы, так у спрэчках яе з „безответственными церковными кругами" (як яна сама іх называе), ярчэй за ўсе сказалася яе шкадлівая праца, датычучая яе ўнутранага, прававога становішча.

Найлепш за ўсё гэта выявілася ў стацьці, сьмешчанай у № 49 „Воскреснаго чтенія" за 1927 г. пад загалоўкам: „Праект разрушенія Православной церкви в Польшѣ". У гэтай стацьці нявядомы яе аўтар, але, ясна, асоба, стаячая блізка да царкоўна-ўрадавых кругоў, рэзка нападае на украінскі царкоўны камітэт*) і на выпрацаваны гэтым камітэтам статут аб прававым і кананічным палажэньні праваслаўнай царквы ў Польшчы ў праціўвагу такому самаму статуту, выпрацаванаму мітрапалітам і сінодам.

Папярэджываем сваіх чытачоў, што мы не з'яўляемся поўнымі прыхільнікамі

*) Украінскі царкоўны Камітэт гэты узьнік пасьля склікаанага праз дохтара Рэчынскага у летку 1927 году украінскага царкоўнага з'езду, у якім прыняло ўчасьцьце 524 депутата. Мітрапалітам было забаронена прыймаць удзел у гэтым з'ездзе духавенству Ен выключна складаўся з адных міран. З'езд гэты утварыў свой выканаучы орган Украінскі Царкоуны Камітэт, а гэты Камітэт утварыў свой праэкт царкоўнага статуту у праціувагу сінадальнаму.

гэтага камітэту і яго працы. Мы ўжо раз у гэтым сэнсе хоць і коратка, але выказалі свае думкі на старонках „Праваслаўнай Беларусі“.

Дзеля гэтага мы можам зусім бестаронна судзіць аб гэтай справе. Але, як бы мы аб ёй ня судзілі, ня можна не адзначыць таго, што безумоўна з пункту гледжаньня царкоўнага „Статут“ камітэту стаіць вышэй, чым „Статут“ мітрапаліта. Аднак на гэты раз у нас мова не аб гэтым, а аб успамянутай вышэй стацьці „Васкрэснага Чтенія“ у якой у палеміцы з украінскім царкоўным камітэтам мімаволі наша іерархія ў асобе аўтара стацьці прызнаецца ў тым, што страціла кананічны грунт і што гэты грунт для яе быў у пастановах Маскоўскага Сабору 1917—18 г. г., якія яна адкінула.

Мы пройдзем міма самага пачатку стацьці, гдзе славамі няведама аўтар нападае яна на украінскі з'езд (іншы раз і справядліва) і змагаецца апраўдаць сваю дзеяльнасьць, пры чым прызнаецца сама, што іерархія „ўва многам **пазбаўлена магчымасьці асьветляць узапраўднае становішча царкоўнай справы**, бо гэтага вымагае ад яе „**государственный такт**“.

Папярэджаньне для нас дужа важнае. На жаль толькі не паказана, як адрожніваць нам, гдзе наша іерархія гаворыць няпраўду („освѣщает положеніе не истинном свѣтѣ“) з прычыны „государственнаго такта“, а гдзе... так, так сказаць па ўнутраным прычынам і гдзе, нарэшце, гаворыць праўду. Прыдзецца відаць нам самім знаходзіць гэты крытэрый.

Далей ідзе пытаньне аб самым галоўным,—аб „сабornасьці“. Аўтар, стаючы на пазыцыі абароны вышэйшай іерархіі, горача адкідае закід, што яна ня дбала аб саборнасьці: „главный упрек по адресу власти в том, что она отказывается от соборного начала, просто не соотвѣтствует дѣйствительности“. А за некалькіх радкоў перад гэтым сам аўтар прызнаецца, што ў сінадальным праэкце „Статуту“ **ня было ніводнага слова аб Саборы** і што январскі (1927 г.) з'езд духавенства і міран зрабіў у § 3 гэтага статуту прыбаўку: у праваслаўнай царкве ў Польшчы „**вышейшая заканадаўчая ўлада належыць Сабору**“.

Зрабіў гэтую дабаўку хто? Архіерэі? — Не. — Зрабіла ніжэйшае духавенства і міране. Хто-ж лепш стаяў тут на кананічным грунце і хто дбаў аб саборнасьці? Смешна пасьля гэтага робіцца, калі ў далейшых радках стацьці аўтар яе не адзін раз выхваліваe сынод і іерархію, што ў сваім статуце яны (?) правялі саборнае начала.

Дужа няўдачна далей аўтар стацьці вядзе палеміку проці **выбарнага начала** ў царкве. „Саборнасьць зусім ня тое, што выбарнасьць“, гавора ён, і горача паўстае проці выбарнасьці іерархіі і кліра, уважаючы гэта за „установленіе основаў, противорѣчащих церковному строю“.

Выходзіць, калі так, што апосталы, якія прапанавалі ўсяму веруючаму народу выбраць новага апостала замест Іюды, ці выбраць дыяканаў (гл. кн. „Дѣяній“ гл. I і VI), так сама ўвадзілі парадкі, праціварэчучыя царкоўнаму строю? А мы-ж у „Сімвале веры“ чытаем: „веруем у **саборную, апостальскую царкву**“?

Саборнасьць безумоўна ня тое што выбарнасьць, бо гэта астатняе паняцьце ёсьць далёка вузейшае. Але выбарнасьць ёсьць таксама безумоўна **аднэй з галоўнейшых праяваў саборнасьці** і там, гдзе ёсьць якая небудзь магчымасьць, яна павінна быць уведзена і баяцца яе няма чаго.

Аўтар стацьці ў цэлым працягу яе ня раз насьмяхаецца над аўтарамі украінскага статуту, што яны гавораць аб выбарах „па абычнаму парламентскаму спосабу“. Ведама, гэта было-б сьмешна калі-б аб гэтым спосабе гаварылася як аб „кананічна абавязковым“. Але калі аб ім гаворыцца як проста аб **найлепшым, што разпрацавана самім жыцьцём**, дык і сьмешнага нічога няма. Царкоўныя каноны не перадугледжываюць адзінага і сталага **спосаба** выбараў і калі трэба які спосаб увадзіць у царкоўную практыку, дык ведама лепшы з тых што дае сучаснае жыцьцё, а ня горшы. Дрэнна толькі тое, калі мы ў гэтых выбарах больш падзеі пакладаем на **самы спосаб, чым на дух Божы**, які жыве ў царкве. Але-ж гэтага мы як раз і бачым ня толькі ў аўтарах украінскага статуту, але і ў аўтарах „статуту“ сінадальнага. Мы ўжо гаварылі вышэй (Гл. „Прав. Бел.“ № 7—13)

аб тым, як у выпрацаваным Сінодам „статуце“ і „правілах“ аб скліканьні сабору іерархія стараецца **забязпечыць сабе большасьць галасоў.** Відаць адсюль, што „абычныя способы парламентскага жыцьця“, гдзе ўсё заснована на большасьці галасоў, ня зусім непадабаюцца і гэтай іерархіі. Чаго-же тады аўтару стацьці з такой абавай,—проста „с ужасам“, з абразай гаворыць аб тым, што паводле украінскага „статуту“ аўтары яга дабіваюцца на епархіяльным сабраньні „падвойнага прадстаўніцтва“ міран. Найбольшае, што можна з гэтага вывясьці, дык толькі тое, што ў украінскіх дзеячоў, стаўшых на чале Луцкага з'езду, быў такі самы нізкі пазём царкоўнай сьведамасьці як і ў вышэйшай афіцыяльнай іерархіі.

Мы не з'яўляемся абаронцамі украінскага статуту, між іншым не баронім і падвойнага прадстаўніцтва міран на епархіяльных сабраньнях. Але і баяцца гэтага „двайнога прадстаўніцтва“ у царкве няма чаго. У царкоўным жыцьці, цэнтр ня ў колькасьці, а ў якасьці*), і тыя іерархі, якія баяцца „большасьці галасоў,—проста самі ня веруюць ні ў свой аўтарытэт, ні ў жывучую ў іх „благадаць Божыю“, ні ў „Духа Бож'яга“, жывучага ў царкве. Дык тым архіпастырам, якія самі больш за ўсё клапоцяцца і баяцца за большасьць галасоў, няма чаго закідаць і міранам, бо яны самі так сама мала, а нават і яшчэ меньш стаяць на грунце ўзапраўднай царкоўнай саборнасьці як і галавары ўкраінскага з'езду.

Гэта так ясна сказалася далеп у разглядаемай намі стацьці. Калі яе аўтару аказалася патрэбным прытачыць прыклады **ўзапраўднай саборнасьгі** ў процiўвагу саборнасьці украінскіх з'ездаў, дык ён знайшоў яе не ў сваім царкоўным жыцьці, а... у пастановах Маскоўскага Сабору 1917—18 г. г.,—таго самага Сабору, пастановы якога так занядбала гэтая іерархія.

„Дабы сразу понять, **чѣм отличается церковная соборность** от стремленій так называемаго церковнаго комитета (украінскага), полезно обратиться к организаціи „Высшаго Церковнаго Совѣта“, образованнаго постановленіем Священнаго Собора Православной Россійской Церкви 7-го декаяря 1917 г.“

*) Аб гэтым гаворыць і сам аўтар стацьці.

Так піша аўтар стацьці і пры гэтым прыводзіць для параўнаньня з украінскім статутам адпаведныя мейсцы пастановаў Маскоўскага Сабору.

Паводле украінскага „статуту“ мітрапалічая рада складаецца з падвойнай лічбы міран і ў поўнае распараджэньне епіскапаў аддаюцца толькі справы „чыста духоўныя і кананічныя“. А паводле Маскоўскага Сабору ў склад мітрапалічага савету ўваходзіць на 16 чалавек толькі 6 міран, пры чым ня толькі справы чыста духоўныя і кананічныя“, але і справы царкоўнага упраўленьня і дысцыпліны даручаны не яму, а Сыноду.

Далей, – гавора аўтар стацьці, паводле украінскага статуту сам мітрапаліт знаходзіцца як бы „в плѣну“, у няволі у міран; судзіць яго можа сабор з прадстаўнікамі ад міран „избранных па абычнаму парламентскаму способу“, а вось,—урачыста заяўляе аўтар,—як паступіў Сьвяшчэнны Сабор Праваслаўнай Расейскай Царквы, хоць праца яго адбывалася ў гадзіну смуты, безначалія і Бож'яга паушчэньня на Русі: Пры нарушэньні ўсерасейскім патрыархам сваіх абавязкаў толькі тры вышэйшых сябры сінода ці царкоўнага савета ў архіерэйскім сане могуць зрабіць яму братнюю ўвагу. Жалабы на яго падаюцца толькі ў Сынод, дзе няма міран. Прызнаньне царкоўнай падсуднасьці якіх небудзь паступкаў патрыарха належуць толькі супольнаму паседжаньню Сынода і Царк. Савета (гдзе разам на 27 асоб толькі 6 міран), а самая аддача пад царкоўны суд і суд могуць адбыцца толькі на ўсехрасейскім саборы архіерэяў па магчымасьці з запрашэньнем другіх патрыархаў і прадстаяцеляў аўтакефальных цэркваў, пры чым для абвінавачаньня патрэбна ня менш як 2/3 галасоў.

„Так вознесли“, у справядлівым пафосе ўскрыквае аўтар стацьці, — „так оградили главу Россійской Праваслаўной Церкви представители 150 милліоннаго православнаго, вѣрующаго и благоговѣйна настроеннаго русскаго народа і русской іерархіи“**).

А хто-ж, запытаемся мы, былі гэтымі прадстаўнікамі, якія так „вознесли и возвеличили“ своего главу? Ці аўтару стацьці ня ведама што **палова** ся-

**) Гл. „Воскресное Чтеніе“ № 49, 1927 года стар 628.

броў Маскоўскага Сабору складалася з міран? Чаго-ж запытаемся мы далей, гэтых міран так баіцца аўтакефальная іерархія ў Польшчы? Ці можа тут народ меньш„благачэсьцівы, меньш вэруючы, меньш благагавейна настроены", чым народ расейскі ў самы разгар бальшавізма ў Расеі?

„У чым-жа справа?"—пытаецца сам аўтар стацьці.

— А справа ў тым,—гавора ён, – што на Сьвяшчэнным Саборы Праваслаўнай Расейскай Царквы **думалі па царкоўнаму**, маліліся і ў шуканьні праўды тварылі дзеля ўмацненьня царквы на саборным начале.

Зусім згаджаемся ў гэтым з аўтарам стацьці, і нічога дзіўнага ня было-б калі-б гэтакія пахвалы маскоўскаму сабору раскідывалі мы, хто заўсёды баранілі гэты сабор як узапраўдную падставу і ўзапраўдную крыніцу кананічнага ўстрою ў праваслаўнай царкве ў Польшчы. Але дзіўна пачуць гэта з боку тых, хто ўперад за ўсё вінаваты ў тым, што, наперакор канонам, адкінулі пастановы Маскоўскага Сабору і сталі правіць царквой па свойму сваявольлю.

Утым-жа і бяда, што ўперад за ўсіх у нас перасталі „думаць па царкоўнаму, маліцца, шукаць царкоўнай праўды" ня міране, а гэтая самая іерархія, якая некананічна захапіла царкоўную ўладу, усунула ўзапраўдных кананічных іерархаў, а каб утрымаць уладу ў сваіх руках пастаралася зьніштожыць усе праявы саборнасьці, бо ведала, што народ не падтрымае яе ў некананічных чынах.

Няма нічога дзіўнага, што адкінуўшы кананічныя падставы, астаўшыся тут „бяз грунту", яна аказалася безаружнай, і перад тымі „безответственными церковными кругами", на якіх яна так жаліцца. І вось цяпер воляйняволяй ей прыходзіцца ізноў у барацьбе з імі вяртацца да тых самых грунтаў, якія яна адкінула, і паклікацца на тыя самыя пастановы Маскоўскага Сабору, аб якіх ня раз тое самае „Воскресное Чтеніе" адзывалася як аб некананічных.

Дзіўным на рэшце з'яўляецца і тое, што аўтар стацьці, так выхваляючы міран, якія прыймалі ўчасьце ў Маскоўскім Саборы, з такой непрыхільнасьцьцю а нават з ненавісьцю, гавора аб сваіх пасомых.

Тыя былі здольныя і „думаць па царкоўнаму, і маліцца і шукаць праўды і тварыць царкоўную працу". А чаму-ж, пытаемся мы, гэтага ня можа наш царкоўны народ, калі гэта мог царкоўны народ у Расеі, нават у самый разгар бальшавіцкай рэвалюцыі? Ці ж наш народ украінскі ці беларускі такі дрэнны, што яму ня можна даручаць царкоўныя справы?

„Церковь отдается мірянам и каким мірянам!"—ускликае аўтар стацьці.— Мірянам избраннным по обычному парламентскому способу. „Это не тѣ, кто когда то умирали за имя Христа, слушали своего епископа, **приносили ему свое достояніе**, у которых не только одежды, но и души были бѣлоснѣжны и огонь вѣры горѣл не только в лампадах, но и в сердцах" і гэтак далей!

Вось якія аргументы праціў учасьця міран у царкоўных справах выстаўляе аўтар стацьці.

Ці-ж гэтыя маральныя пажаданьня могуць быць скіраваны толькі адносна да міран? А іерархія не павінна стаяць на пэўнай маральнай вышыні? Ці не правакуе ён нас на тое, каб нам тое самае сказаць аб іерархіі:

„Церковь стдана іерархіи. Но какой іерархіи? Тѣ ли это великие подвижники и учители церкви, которые умирали за имя Христово, тѣ ли, которые как добрый пастырь полагали свою душу за овец, а не думали как наемники о том, чтобы народ им „нёс свое достояніе", тѣ ли у кого бѣлоснѣжны не только одежды но и души...?"

Ці можа ў іх хопіць сьмеласьці сказаць на гэта: так, мы такія?

Мы няхочам і ня будзем тут улічаць каго з іх у якіх грэхах і праступках. Самі няхай спраўдзяць гэта ў сваі совесьцях. Але мы павінны напомніць ім аб тым, што калі ўзапраўды ў народзе абніжаецца вера, маральнасьць любоў да царквы, дык ці ня вінаваты-ж у гэтым самі архіпастыры якія, ўвайшлі ўва „двор оўчы" не праз дзьверы царкоўных кананаў—якія ня чуюць за сабой„благадатнага зова Хрыстова, а дзеля гэтага і іхны зоў і не адчуваецца ў сэрцах верных, бо ім яны не сваe!

Успамінаюцца тут словы Евангэлія: „Аще соль обуяет, чым осолится"?

Чым?

Аб гэтым у іншы раз.

В. Багдановіч.

# Цікаўны канфлікт Ватыкану з фашызмам.

Італьянскі фашызм, разьвіваючы у народзе найбольш зьвярыныя пачуцьці і імкненьні ваяўнічага нацыяналізму, ад самага пачатку аж дагэтуль карыстаўся чамусьці сталай сымпатыяй і падтрыманьнем з боку Ватыкану. Мусоліні, хаця сам быў сацыяліст, спрытна зразумеў і добра выкарыстаў—для свае перамогі ўсю сілу магутнай арганізацыі Каталіцкага Касьцёлу. Прыязьнь паміж фашыстаўскім Квірыналам і Ватыканам усьцяж расла. Фашыстаўская прэса, цяпер асабліва, падчырківае, як шмат зрабіў фашызм для падняцьця аўтарытэту каталіцкай рэлігіі ў вольнамысьнай, „масонскай“ датаго Італіі. Але, праўду кажучы, меры фашыстаўскага ўраду былі ўсё больш казённага, паказнога і матэрыяльнага характару. У школах, шпіталях, канцэлярыях павешаны былі ізноў крыжы, выгнаныя адтуль папярэднімі масонскімі ўрадамі на знак поўнай сьвецкосьці грамадзка-дзяржаўнага жыцьця ў краі. Дзеля эфэкту Мусоліні загадаў узьнясьці крыж нават на руінах Колоссэя (былы вялізарны цырк у Рыме, дзе 2000 гадоў таму адбываліся паміж іншымі ігрскамі і казьні хрысьціянскіх мучанікаў, аддаваных на жор тыграм і львам). Гэты крыж мей сымвалізаваць перамогу хрысьціянскага духу над паганскім у сучаснай фашыстаўскай Італіі. Далей Мусоліні дэкрэтаваў, каб каталіцкім кардыналам войска аддавала... ваенныя ганоры, як „генаралам касьцёлу“... Пэўне-ж не запамятаваў спрытны „павадыр“ і матэрыяльнага боку „прыязьні з Касьцёлам“ яго „адбудаванага аўтарытэту“: улады пачалі адбіраць, перад усім, ад рожных „масонскіх“ і апазыцыйных установаў—нават дабрадзейных і асьветных—былыя касьцельныя маемасьці, канфіскаваныя калісьці дзяржаваю,—і аддаваць іх кляштарам і інш. касьцельным уладам і арганізацыям...

Усё гэта лагодзіла духавенстаа, мірыла яго з „цёмнымі старонамі“ дзейнасьці фашызму, будзіла ў цэнтральных касьцельных уладах найлепшыя надзеі на прышласьць... Рабіла з іх—магутнейшую падпору фашызму...

У канцы мінула году гэтая ўзаемная прыязьнь дайшла да таго, што ў Ватыкане зьявілася думка, ці не зьяўляецца Мусоліні тым провідэнцыяльным чэлавекам, які пасланы Богам, каб скасаваць „гістарычную крыўду“, зробленую Касьцёлу паўвеку назад,—вярнуўшы Апостальскай Сталіцы яе дзяржаўную тэрыторыю і суверэнную ўладу ў адбудаванай папскай дзяржаве. Каб зразумець, аб што тут ідзе, трэба варнуцца за паўвеку назад.

—о—

20 верасьня 1870 г.—у часе бараацьбы Італіі за незалежнасьць і аб'еднаньне—ген. Кадорна, на чале італьянскай арміі, заняў Рым. Незалежная „Касьцельная Дзяржава“ Папы была скасавана. Папе былі дадзены вельмі значныя прывілеі,—пакінуты ў карыстаньне ўсе палацы і сады Ватыкану, але правы ўласнасьці „Апостальскай Сталіцы“, на ўсе гэтыя вялізарныя гіставычныя вартасьці і багацьці, сабраныя з ўсяго сьвету, былі абвешчаны скасаванымі на карысьць італьянскай дзяржавы.

Папа ня прызнаў гэтага акту гвалту, не падпісаў адноснай умовы, і адгэтуль—у знак пратэсту—запёрся ў Ватыкане, лічучы сябе „вязьнем італьянскага ўраду“... Папа ня выходзіць па-за межы вялізарнага Ватыканскага палацу (маючага 11000 пакояў), ня прымае ніякага ўчасьця ні ў якіх урачыстасьцях дзяржаўнага жыцьця Італіі—„ў акупаваным ворагам Рыме“... Штогодна 20-га верасьня, з вышыні ватыканскай трыбуны раздаваўся ўрачысты пратэст проці дакананага над „Апостальскай Сталіцай“ гвалту... Такія адносіны паміж Касьцёлам і дзяржавай падтрымліваліся і традыцыйнымі анты-клерыкальнымі, „масонскімі“ настроямі кіруючага італьянскага грамадзянства, у значнай меры выкліканымі—якраз гэтымі прэтэнзіямі Папы да ўскрашэньня сьвецкай улады касьцёлу і адбудовы сярэднявечнай „Касьцёльнай Дзяржавы“...

Так было да Мусоліні. Фашызм

быццам „распачаў „новую эру“ ў стасунках дзяржавы і Касьцёлу ў Італіі“. І вось, Ватыкан запраўды паверыў, што Мусоліні ня толькі хоча, але і можа даканаць чуда поўнага прымірэньня касьцельнай улады з сьвецкай дзяржавай—шляхам зьліквідаваньня „гістарычнай крыўды“, зробленай Касьцёлу ў 1870 г...

Вось аснаўная думка, кіраваўшая усей палітыкай ватыкану адносна да фашызму...

—о—

І вось у кастурычніку мінулага году з пачыну аднаго блізкага да Мусоліні сэнатара у прэсе пачалася адкрытая дыскусія у гэтай справе.

Справакаваны фашыстаўскай прэсай, афіцыяльны орган Ватыкану (папскага ўраду), „Оссэрваторэ Романо“, выложыў тыя варункі, на якіх папа мог бы згадзіцца поўнае на прымірэньне з дзяржавай, — выбачыць ей гвалт 1870 г.

Вось гэтыя варункі:

1. Поўная незалежнасьць касьцельнай дзяржавы і нятыкальнасьць яе тэрыторыі.

2. Неабмежаванае права ўласнасьці на ўсе сады і палацы з іх багацьцямі.

3. Зварот Папскай дзяржаве значнага кавалку Рыму — на левым беразе Тыбра—дый з шырокім пасам тэрыторыі ад сталіцы да мора з уласным портам.

Усе гэтыя варункі мелі-б рэальна забясьпечыць гарантаваную Італіяй поўную незалежнасьць Касьцельнай дзяржавы...

Ватыканская газэта падчырківае пры гэтым „вялікую умеранасьць гэтых варункаў: Папа ня трэбуе ўжо больш поўнай адбудовы ўсяго таго, што аднята у яго у 1870 г.

Цікаўна, што і пасьля апублікаваньня гэтай „праграмы прымірэньня“, фашыстаўская прэса, якой кірую родны брат Мусоліні, усё-ж прадаўжала прыхільна дыскусію... Але вось — раптам, як пярун сярод яснага неба, раздалися рашучая адмова Мусоліні, які заявіў, што варункі, высунутыя Ватыканам,—„не згаджаюцца зусім з агульнай лініяй фашыстаўскага гаспадарства“.

І вось, уся так пекна распачатая „новая эра“—„адцьвяла не пасьпеўшы расьцьвісьці“.

Дзіва, што пабітыя „марозам“ надзеі з аднаго боку, дый раззлаваны „прэтэнзыямі касьцёлу на падзел улады„ фашыстоўскі імпэрыялізм. з другога ня да рэшты папсавалі адносіны паміж абодвымя нядаўнымі прыяцелямі... Фашыстаўская прэса адразу зьмяніла тон.

Чаловы орган партыі піша:

„Справа забясьпечэньня поўнай палітычнай і праўнай незалежнасьці Апостальскай Сталіцы зусім ня зьвязана неабходна з адбудовай тэрытарыяльнай суверэннасьці былой Касьцельнай дзяржавы“... І „тонка“ дае: „Наадварот: вялізарны ўзрост маральнай павагі Рымскага Касьцёлу за апошняе паўстаньне сьведчыць бяспрэчна аб тым, што дзеля узмацненьня яго духоўнай улады над каталіцкім сьветам ад касьцёлу зусім не пашкодзіла пазбаўленьне папы „часовай, сьведкай, матэрыяльнай улады на зямлі, дакананае ў 1870 г.“...

Зьдзекаваючыся над сваім вязьням шчаслівыя валадыры „фашызму ня крыюць свайго трыумфу, што справакаваная ім „цікаўная і карысная палеміка“—высьветліла усё-ж вельмі важныя для дзяржавы рэчы:

1. Папа аканчальна нарэшце адмовіўся ад сваіх „недарэчных лятуценьняў — аб „Інтэгральнай адбудове былой касьцельнай дзяржавы“.

2. Папа згадзіўся лічыць увесь свой спор з Італьянскай дзяржавай—унутранай справай Італіі, а ня міжнародавай, як station становуча кваліфікаваў яго дагэтуль.

Дзіва, што на так падрыхтаваным „псіхолёгічным грунце“ ў Ватыкане—кожны, нават драбнейшы, выпадак павінен быў разыграцца ў паважны канфлікт... І запраўды-ж—гэтага ня прышлося залішне доўга чакаць...

Аканчаньне будзе.

**Пашырайце сваю часопісь сярод праваслаўных чытачоў.**

# Працэс „Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады".

(працяг).

**Васілеўскі**, аьспірант палітычнай паліцыі, падцьвярджае агулам паказаньні Ясінскага. Падрабязна гаворыць аб узьнікнавеньні „Грамады" на абшарах Вільні і яе дзейнасьці. Сцьвярджае кантакт „Грамады" з ППС-лявіца, на чале якой стаялі камуністыя. Лучнікам тут быў Акінчыц. Васілеўскі сцьвярджае, што „Грамада" зьвярнула вялікую ўвагу на пашырэньне прэсы. На гэтую мэту выдана, па яго аблічэньнях, 190 тысяч злотых. Прэсаю кіраваў Луцкевіч, над якім чуваў цэнзар ад Камінтэрну. Першым цэнзарам быў Лагіновіч, потым: Гурын, Бабровіч, Цьветкоў. Агульнае кіраўніцтва прэсаю было ў руках „калегіі"—Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі і Луцкевіч. У Віленскай Беларускай Гімназіі зарганізавалася камуністычная „ячэйка" пад апекаю Астроўскага. Для Беларускага Банку субсыдыі давалі Саветы.

У далейшым працягу сваіх паказаньняў Васілеўскі гаворыць аб руху мэтадыстаў у Вільні. Мэтадысты памагалі Беларускай Гімназіі ў Вільні і давалі субсыдыі гімназіі ў Радашкавічах. Луцкевіч, Астроўскі і Коўш згадзіліся зрабіць пераклад бібліі на беларускую мову. Адказваючы на пытаньні пракурора Раўзэ, сьведка выясьняе, што Коўш згадзіўся тлумачыць біблію жаданьнем заработку, бо дзеля гэтага-ж ён быў і бугальтарам у Банку; Коўш купіў сабе дом за 750 даляраў і ўлажыў у рамонт яго 250 даляраў; Коўш мае справу ў Горадзенскім Акружным Судзе за падбураньне жыкарства.

**Коўш** пытаецца: Якая розьніца паміж бібліяй, прызначанай для праваслаўнага, каталіка і мэтадыстага?

Старшыня Суду адхіляе гэтае пытаньне.

Адв. **Гонігвіль** пытае ў сьведкі: Адкуль сьведка ведаў аб кантакце Акінчыца з кіраўніком ППС-лявіцы Алейнічаком?

**Васілеўскі** адказвае: Над імі цягнулася абсэрвацыя праз цэлыя 24 гадз.

Адв. **Гонігвіль.** — Адкуль вы маеце інфармацыі аб субсыдыях К. П. З. Б. для Банку?

**Васілеўскі.** — Аб гэтым казаў мне Гурын, апрача гэтага я меў канфідэнцыйныя дадзеныя з АК-КПЗБ у Вільні.

Адв. **Гонігвіль.** — Дык вы мелі свайго чалавека ў АК-КПЗБ?

**Васілеўскі.** — На гэтае пытаньне не адкажу.

Гонігвіль просіць запратаколіць пытаньне і адказ.

Прак. **Раўзэ.** — Што вы ведаеце аб дзейнасьці Луцкевіча ў часе нямецкай акупацыі?

**Васілеўскі.**—Падтрымліваў ён кантакт з вывядоўчым аддзелам нямецкага генеральнага штабу.

**Луцкевіч.** — Адкуль ведама, што я быў у кантакце з контр-разьведкаю нямецкага генеральнага штабу?

**Васілеўскі.** — Гэта рэчы агульна ведамыя, а ў „Дзярж. Архіве" ёсьць дакуманты, што вы бралі ад Немцаў грошы.

9-ты дзень працэсу прайшоў у найбольш напружанай атмасфэры. Ад раньніцы дапрашываюць адв. **Ст. Міцкевіча, Чэрніхава і Радзевіча.** Дапрос галоўнае датычыць таго, ці была ў групе ўмова з п. Сабалеўскім адносна „таксы" за абарону палітычных абвінавачаных зьвязаных з „Грамадой". Адв. Міцкевіч амаль не на ўсё адказвае: ня знаю, ня ведаю, ня памятую. Чэрніхаў і Родзевіч паказываюць, што некаторых палітычных з „Грамады" баранілі, плаціў Сабалеўскі, якога яны ўважалі за прадстаўніка беларускіх арганізацыяў, а хто яму даваў грошы іх не датычыць: рабілі дапушчэньні, што гэта зьбіраюць з сем'яў абвінавачаных.

Надта шмат часу займае дапрос сьведкі сэн. **В. Багдановіча.** На пытаньні старшыні ён перадусім паказывае, што паслы Беларускага Пасольскага Клюбу складалі што месяц складкі, у залежнасьці ад расходаў, ад 100 да

400 зл. з сябра. Гэтыя грошы ішлі на ўтрыманьне Клюбу, на сэкратара, на машыністку, а пасьля на падтрыманьне беларускіх газэтаў, гімназіяў, прытулкаў, на помач С. Барану і іншым палітычным вязьням. Рэшта складалася ў так званы жалезны капітал, які зьбіралі паслы на выпадак наглага роспуску Сойму, каб было троху грошы на новыя выбары. К часу падзелу Клюбу ў капітале гэтым лічылася разам каля 2000 рублёў золатам і каля гэтай сумы ў далярах і польскай валюце. Падзялілі яго па роўну з „Грамадой".

Доўга пытаюцца аб Банку. Багдановіч адказвае, што найбольш энэргічным ініцыятарам Банку быў п. Ярэміч. Астроўскага выбралі на дырэктара затое, што ён наагул энэргічны, працавіты, добры арганізатар і чалавек—сам з грашыма. Галоўны даход Банку быў з заграничных грашавых пераводаў, пераважна—з Рыгі.

З сьвяшч. Каўшом ён пазнаёміўся гады тры таму, калі той быў на Дзятлавіцкай парахвіі. На яго ён зрабіў уражаньне чалавека дзельнага, працавітага і беражлівага. Прыход і царква былі ў парадку, парахвіяне да яго адносіліся добра і з пашанай. Гэта-ж усё апраўдалася і ў Вільні, дзе ён на Сьніпішках у некалькі месяцаў зрабіў для царквы тое, чаго не маглі зрабіць яго папярэднікі ў працягу колькіх гадоў.

На пытаньні Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, а. Каўша, Астроўскага—сьведка адказывае, характэрызуючы іх асабістае жыцьцё, іх срэдствы і падцьверджывае некаторыя факты з жыцьця Соймава Кклюбу.

На запытаньне Бурсэвіча—успамінае, што пасылаў да яго адных украінскіх артыста і артыстку, якія прагарэлі са сваім тэатрам у Вільні, асталіся бяз хлеба і ня мелі з чым выехаць. Сам ён ня мог ім многа даць і адаслаў да Бурсэвіча. Пад „жыр" Бурсэвіча ім пазычылі ў Беларускім Банку 120 зл., з якіх 60 яны ўжо вярнулі, а ў пратаколе гэты вэксэль фігуруе як доказ помачы камуністам.

Пасьля перарыву Багдановіча пытаюць, галоўнае, чаму падзяліўся Клюб, чаму паўстаў новы Беларускі Нацыянальны Камітэт, чаму, апрача Таварыства Беларускае Школы, паўстаў Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Пасьля адказаў Багдановіча дае яшчэ паясьненьні Тарашкевіч. Бел. Кл. падзяліўся дзеля таго, што большасьць зусім разчаравалася (асабліва пасьля соймавага школьнага закону) у магчымасьці працаваць далей у Сойме і парашыла працу перанесьці на арганізацыю народа, каб змусіць урадісьці на ўступкі. Іншыя знаходзілі, што яшчэ можна працаваць і ў Сойме. Сярод такіх быў з пачатку і Тарашкевіч. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ўтвораны зусім не ў проціўвагу Таварыству Беларускае Школы, ён проста—шырэйшая інстытуцыя, бо ў яго ўваходзяць і гаспадарчыя функцыі. Уласаў быў ініцыятарам Інстытуту і разам зьяўляецца старшынёй Таварыства. Новы Беларускі Нацыянальны Камітэт паўстаў ужо *пасьля* арышту грамадоўцаў.

На запытаньне аднаго з судзьдзяў, чаму вы ўважалі працу „Грамады" шкадлівай для народа, чаму чакалі, што яна будзе зьліквідавана? Багдановіч дае адказ: Гэта ўжо відаць было, па-першае, што ў „Грамаду" стала ўлівацца шмат яўна камуністычных элемэнтаў, якія маглі-б яе справакаваць, а па-другое за тое, што ў урад марш. Пілсудзкага ўвайшоў міністр справядлівасьці Мэйштовіч,—правы, які, як было чуваць у соймавых кругох, не згадзіўся ўвайсьці ў урад без папярэдняга дазволу зьліквідаваць „Грамаду".

**10—30 дні.** Усе гэтыя дні цягнецца допрос сьведкаў. Большая частка іх паўтарае тое самае, да і наагул мы ня можам у нашай часопісі даваць поўную і падрабязгавую справаздачу працэсу, бо для гэтага не хапіла-бы мейсца.

У працягу гэтых дзён зроблена была дужа старанная рэвізія Беларускага Банку праз асобна назначанага ўрадавага рэвізора. Нічога кампраміт уючага банк, знойдзена ня было. Пасьля рэвізіі адбыўся галавы агульны сход сяброў банку. На сходзе таксама быў прысутны прадстаўнік ураду, які зрабіў некалькі ўваг, што да тэхнічных бакоў банкавай бугалтэрыі, але ніякіх уваг ня мог зрабіць з боку палітычнага. На судзе пасьля гэтага адбылося асобае паседжаньне, пасьвечанае выключна банкавым справам, у якіх дапрашывалі экспэртаў і рэвізораў банку. На гэтае паседжаньне пазваныя былі ня ўсе абвінавачаныя, а

толькі Астроўскі, Коўш і іншых некалькі, якія працавалі ў банку.

На 30 дзень паседжаньня (12 красавіка) здарыўся ў судзе інцыдэнт з-за белтрускай мовы. Адзін з сьведкаў, камэндант паліцыі Лахэрскі, які паказываў многа аб тым, што ён чуў на беларускіх сабраньнях; на запытаньне Тарашкевіча пабеларуску, адказаў, што ён не разумее пабеларуску. Тады паўстала пытаньне: а як-жа ён зразумеў тое, што гаварылі Беларусы на сабраньнях? — Сьведка адказвае, што ён разумее, але слаба. Гэта ўзбурывае Тарашкевіча і ён садзяся сказаў: „Калі-ж скончыцца гэта камэдыя!" За гэтыя словы прэзэс суда прыказаў паліцыі вывясьці Тарашкевіча з салі. Тарашкевіч тлумачыцца, што камэдыяй ён назваў ня суд, а захаваньне сьведкі. Прэзэс аднак ня зьменяе свайго прыказу. Тады адзін за другім сталі ўставаць з мейсц і іншыя абвінавачаныя, а пасьля і ўсе, просячы каб і іх вывялі разам з Тарашкевічам. Падняўся „алярм". Публіку і абвінавачаных выдалілі з салі і зрабілі перарыў.

Пасьля перарыва адвакатура звараччываецца да суда з просьбай аб адсрочцы паседжаньня суда на заўтра з прычыны здэнэрваваньня і абвінавачаных, і абароны. Пракурор пратэстуе. Суд пасьля нарады паседжаньне адлажыў на другі дзень.

**Сьведка.**

## Палітычная хроніка.

### Скліканьне Сойму і Сэнату.

Дэкрэтам Прэзыдэнта Рэспублікі 27 сакавіка былі першы раз склікані на паседжаньня Сойм і Сэнат. Па адкрыцьці прэм'ерам Пілсуцкім Сойму і Сэнату і па злажэньні прысягі, прыступілі да выбараў маршалкаў. На маршалка Сойму выбраны прадстаўнік PPS-аў— Дашынскі, а Сэнату—прадстаўнік адзінкі—віленскі акуліст Шыманьскі.

Пры выбарах маршалка Сойму, паміж адзінкай і соймавай большасьцю, паўстаў канфлікт з-за кандыдатуры на маршалка Сойму Бартля, якую выстаўлялі „санацыйныя групы", але пасьля паразуменьня Дашынскага з Пілсудзкім, ён згубіў сваю вастрату і адзінка зноў вярнулася да працы ў Сойме. Сойм ужо пасьпеў прыняць буджэт на чэцьвярць 1928-29 году. Па прыняцьці буджэту, Сойм і Сэнат распушчаны на Вялікодныя сьвяты.

### Надзвычайная камісія ў справе выбараў.

30 сакавіка Сойм прыняў прапазыцыю аб вызначэньні надзвычайнай камісіі для досьледу надужыцьцяў у часе выбараў.

### Прапазыцыя аб амнэстыі палітычным.

Большасьцю 175 галасоў Сойм прыняў прапазыцыю аб амнэстыі для палітычных вязьняў.

### Польска-літоўская канфэрэнцыя ў Кенігсбэргу.

30-га сакавіка (марца) ў Кенігсбэргу нарэшце сабралася польска-літоўская канфэрэнцыя. На канфэрэнцыі асабіста прымалі ўдзел з польскае стараны мін. замежных спраў—Залескі, са стараны Літвы—Вальдэмарас. Канфэрэнцыя мела на мэце наладзіць узаімаадносіны паміж Польшчай і Літвой. Пытаньне аб Вільні не падымалася ніякай стараной. Натомест прадстаўнікі Літвы паставілі пытаньне аб выплаце за тую шкоду, якую зрабіў у сваім часе ген. Жэлігоўскі пры заняцьці Вільні. Суму шкоды Літва акрэсьлівае ў 10 міліёнаў даляраў.

Зрабіўшы, здаецца, два паседжаньні, канфэрэнцыя ня прыйшла да ніякага скутку і галаўнейшыя яе прадстаўнікі паехалі дамоў. Натомест урадзілі 3 камісіі, якія маюць вырашыць спорныя пытаньні да 20 красавіка, у якім тэрміне старшыні гэтых камісіяў павінны зьехацца ў Бэрліні падвесьці ітогі працы.

### Аддзяленьне царквы ад дзяржавы.

У Турцыі міністар справядлівасьці

афіцыяльна заявіў, што царква будзе аддзеляна ад дзяржавы. Час каб гэта зрабіць усюды.

### Турцыя хоча ў Лігу Нацыяў.

На канфэрэнцыі па разбраеньню, турэцкая дэлегацыя неафіцыяльна падгатаўляла грунт да ўваходу ў Лігу Нацыяў. Паданьне аб прыняцьці яе ў Лігу Нацыяў мае ўнесьці падчас верасьнёўскае сэсіі Лігі і будзе імкнуцца да сталага мейсца ў Радзе Лігі. Гэтае апошняе ўжо трывожыць Англію, катерая ня хоча згадзіцца на гэтую прапазыцыю і ў свой чарод высоўвае кандыдатуру Пэрсыі.

### Ліквідацыя літоўскага сойму.

На падставе пастановы рады міністраў з 1 красавіка прэзыдыум сойма пазбаўляецца дзяржаўнае пэнсыі. Канцэлярыя сойма зліквідавала, архіў і дакумэнты апячатаны.

### Зьмена рэпарацыйнага пляну Доўса.

Паводле вестак газэты „Matin" паміж палітычнымі і фінансавымі дзеячамі Антанты ідуць перагаворы каб збавіць рапарацыйныя абавязкі немцаў з 132 міліярдаў залатых марак на 32 міліарды.

### Папа і нацыяналісты.

Француская прэса паведамляе, што ў бліжэйшай будучыні папа хоча выпусьціць энцыкліку проціў італ'янскіх і францускіх нацыянальных партыяў.

### Выбары ў Францыі.

Рэспублікаваны дэкрэт францускага ўраду вызначаючы выбары ў палату дэпутатаў на 22 красавіка.

### Аб польска-нямецкай канфэрэнцыі.

Разгарэўшаяся ў сваім часе таможэнная канфэрэнцыя паміж Польшчай і Нямеччынай прынясла абодзьвым старанам шмат шкоды. Калі трохі сьцёрліся грані непаразуменьняў, абедзьве дзяржавы захацелі пагадзіцца. З гэтай мэтай была склікана ў Бэрліне тарговая канфэрэнцыя. Праца канфэрэнцыі ішла туга, а цяпер, напэўна, і зусім парвалася. Поводам да разрыву паслужыла выданая польскім ўрадам, навэла да дэкрэту ад 23 сьнешня 1927 г. ея аб маёнткавых правох чужаземцаў у прыгранічным пасу. Нямецкая прэса лічыць, што гэтым стварыліся немагчымыя варункі для прыезду нямецкай дэлегацыі ў Варшаву для прадаўжэньня канфэрэнцыі.

### Канфлікт паміж Албаніяй і Югаславіяй.

3 красавіка албанская пагранічная ўлада ня пусьціла перайсьці граніцу 4 югаслаўскім грамадзянам хаця яны мелі патрэбныя дакумэнты. У адказ на гэта Югаславія парашыла не выдаваць візаў на ў'езд у Албанію, газэты ў факце закрыцьця граніцы Албаніей бачуць ворожы да Югаславіі акт.

### Камісія па разбраеньню.

2 сакавіка ізноў адбылася камісія па разбраеньню ў Жэнэве.

Разбіраўся праэкт Літвінава прадстаўніка саветаў, які прапанаваў у сваім праэкце зусім разброіцца.

Праэкт аднак сустрэў амаль, што ні агульнае недаверые. Падтрымлівалі прапазыцыю саветаў толькі Нямеччына і Турцыя. Праэкт быў адкінуты. На тым камісія скончылася. Відаць ня лёгкая гэта справа разбраеньне.

### Гішпанія павяртае ў Лігу Нацыяў.

У адказ на пісьмо старшыні Лігі Нацыяў, у якім Ліга прапануе Гішпаніі ўзнавіць удзел у працы Лігі, Гішпанія згадзілася бяз усякіх варункаў на прапазыцыю старшыны Лігі.

### Развязаньне нямецкага Рэйхстагу.

Апошняе паседжаньне Рэйхстага адбылася 31 сакавіка (марца).

Калі ён быў развязаны дэкрэтам прэзыдэнта. Новыя выбары вызначаны на 20 траўня.

### Да канфлікту С.С.С.Р. з немцамі.

Востры канфлікт, які выбух так нясподзяна паміж бальшавікамі і немцамі ў апошнія часы згубіў сваю вастрату. Бальшавікі выпусьцілі на волю некалькі заарыштаваных у Донбасе нямецкіх інжэнэраў і пад судом пазасталася толькі тры, з якіх галоўным лі-

чыцца інжэнер Косьцер. дастаўлены цяпер у Маскву ў Лубянскую турму. Над пазастаўшыміся пад арыштам інжэнерамі суд мае адбыцца ў Маскве не пазней як 15 красавіка (апреля).

**Максім Горкі Міністар?** З С.С.С.Р. ідуць пагалоскі што замест Луначарскага міністрам асьветы будзе назначаны ведамы пісацель М. Горкі.

**Нарада амэрыканскіх інжэнераў.**

Амэрыканскія інжэнеры, якія працуюць у СССР., пасьля арэшту нямецкіх інжэнераў у Данецкім басэйну, баючыся, каб і на іх ня выпаў лёс іх нямецкіх калегаў, пастанавілі патрэбаваць ад бальшавіцк. ўлады абязацельства, што яны ня будуць арыштованы, а ў крайнім выпадку толькі могуць быць высланы за межы С.С.С.Р.

## ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

**Асвабаджэньне месцаблюсьціцеля Патрыаршага Прэстолу м. Пятра.** З ковенскіх духоўных кругоў перадаюць, што там атрыманы весткі аб асвабаджэньні м. Пятра Крупіцкага.

Як ведама, па сьмерці Сьвяцейшага Патрыарха, м. Пётр абняў кіраваньне Расейскай Царквой на правох месцаблюсьціцеля па завяшчаньню Патрыарха. Уся Царква прызнала яго законным месцаблюсьціцялем Але ня доўга прышлося яму кіраваць царкоўным жыцьцём. Узяты ім напрамак у кіраваньні ім Царквою строга-кананічны — рэзкае адмежаваньне царкоўнага жыцьця ад палітыкі,—усё гэта не спадабалася „таварышам" барацьбітам з рэлігіяй. Яны арыштавалі яго і пасадзілі ў турму, дзе ён сідзеў доўгі час, а пасьля саслалі ў Сібір на пасяленьне. Цяпер ён, паводле вестак, звольнены з зсылкі, але яму забаронена ехаць ў Маскву. Мітр. Пётр апынуўся ў Табольску. У царкоўныя справы, як перадаюць, ён пакуль-што ня ўмешываецца.

**З жыцьця Праваслаўнай Царквы у Амэрыцы.** У Паўночнай Амэрыцы, як ведама ўжо даўно ідзе спор за царкоўную маемасьць паміж мітрапалітам Платонам і, жывацаркоўным архіереям Кедроўскім, 3 год таму назад амэрыканскі суд прызнаў усю мае масьць за Кедроўскім. Цяпер справа перайшла у новую стадзію. Адбылося апелацыйнае рашэньне Ньюіорскага суда, паводле якога за кедроўскім Амэрыканскі суд прызнаў мае масьць 115 прыходаў (з 300), -рэшта астаецца за праваслаўным міотрапалітам Платонам. Але і гэтыя 115 парафіяў фахтычна трымаюцца М. Платона.
Справа перадаецца у вышэйшую інстанцыю з пачыну М. Плотона.

і **Новы прыходу у Горадзеншчыні** Міністэрства Вызнань згодзілася узнавіць праваслаўны прыход як філію у Трасьцяніцы Горадзенскай епархіі.

**На багаслоўскім факультэці.** Варшаўскага Універсітэта арганізаваўся прапаведніцкі кружок на чале з гродзенскім япіскапам Аляксеям.

## З беларускага жыцьця.

**Дзесятыя ўгодкі.** 25 сакавіка с. г. у Вільні абходзілася ўрачыстасьць сьвяткаваньня 10-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Сьвяткаваньне распачалася малебнамі ў касьцёле сьв. Мікалая і ў царкве сьв. Тройцы.

А 6 гадзіне ўвечары ў памешканьні Нацыянальнага Камітэту распачалася ўрачыстая акадэмія.

Акадэмію адкрыў прамовай сэнатар Багдановіч, пасьля яго, віталі прысутных ад Ліцьвіноў, ад Палякаў і Жыдоў. Пасьля былі прачытаны тэлеграмы з

прывітаньнямі. Урачыстасьць закончылася канцэртам.

**Савецкая Беларусь.** Агенства Тасса падае наступныя данныя аб савецкай Беларусі: Насяленьня ў сав. Беларусі 5 міліёнаў; з іх 80,6 проц. Белауусаў, 8,2 проц. Жыдоў, 7,7 проц. Расейцаў, 1,9 проц. Палякаў. У мясцох з значным мяншынственым насяленьнем зарганізаваны нацыянальныя саветы, у 1927 г. іх была: 23 польскіх, 22 жыдоўскіх, 5 латыскіх, 2 нямецкіх і 2 расейскіх камітэты. Школьная справа знаходзіцца ў такім стане: з агульнай лічбы 300 — беларускіх 66 проц., жыдоўскіх 18 пр., расейскіх 11 проц. і польскіх 4 проц.

**Выключэньне Янкі Станкевіча з партыі.** Рэдакцыя „Сялянскае Ніны" атрымала камунікат Беларускага Сялянскага Саюзу з Прагі наступнага зьместу:

„Гэтым прэзыдыум Беларускага Сялянскага Саюзу ў Празе даводзіць да ведама, што на дакладным разабраньн палітычнае акцыі ў краю б. сябры Б. С. С. ў Празе гр. Янкі Станкевіча на моцы паотановы агульнага сходу Б. С. С. ў Празе ад 14 студзеня 1928г., прэзыдыум Саюзу на паседжаньні ад 2 сакавіка с. г. пастанавіў дэфінітыўна вылучыць Янку Станкевічу з ліку сяброў Б. С Саюзу ў Празе

Прэзыдыум Б. С. С. ў Празе пры гэтым канстатуе, што цэлая акцыя Янкі Станкевіча ў Заходняй Беларусі вялася і вядзецца выключна на ўласную адпаведнасьць, у разрэз з жаданьнямі і дырэктывамі Бел. Сял. Саюзу ў Празе.

Якое бы то ня было ўжываньне імені Б. С. С. ў Празе Янкаю Станкевічам, дзеля сваіх мэтаў, уважаецца самазвансвам.

**Прэзыдыум Б. С. С. ў Празе.**

**ПАПРАУКА. На першай старонцы замест 14 надрукавана 24 красавіка.**



## АД РЭДАКЦЫІ.

РЕДАКЦЫЯ просіць грамадзян падпішчікаў прысылаць падпісныя грошы, ад гэтага залежыць істнаваньне нашае часопісі «Прав. Белар.» будзіць выходзіць узноў толькі два разы ў месяц. Падпісная плата узноў зніжана (гл. 1-ю старонку).

## ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.